*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета ◆ № 2(58) ◆ 15 студзеня 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## Поступ тыдня

*Беларускі парламент рашыў змяніць структуру ўрада, ліквідаваць шэраг міністэрстваў. Створана міністэрства абароны. Вырашана падпарадкаваць рэспубліцы ўзброеныя сілы, што знаходзяцца на яе тэрыторыі. Зацверджаны тэкст ваеннай прысягі.*

***НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ, ЯКАЯ ПРАДСТАЎЛЕНА У ААН, ПРЫЗНАЛА ГЕРМАНІЯ І ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. КРОКІ ПЕРШЫЯ, АЛЕ ШМАТЗНАЧНЫЯ.***

ГОД НАЗАД рабочы трактарнага завода спытаў пры сустрэчы з былым прэзідэнтам краіны: дзе ўзяць абутак? Сёлета, стоячы ў пікеце перад Домам урада, пра тое ж спытаў настаўнік. Кіраўніцтва, як бачна, не хоча слухаць голас народа...

**У СУВЯЗІ З НАБЛІЖЭННЕМ ТЫСЯЧАГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ СІНОД БЕЛАРУСКАГА ЭКЗАРХАТА ЗВЯРНУЎСЯ З ПАСЛАННЕМ ДА ПАСТЫРАЎ, МАНАХАЎ І ЎСІХ БОГАБАЯЗНЫХ ЧАДАЎ, У ЯКІМ НАПОМНІЎ ПРА ЗНАЧЭННЕ ГЭТАЙ ПАДЗЕІ І НЕАБХОДНАСЦЬ ТРЫМАЦЦА ВОЛІ ХРЫСТОВАЙ — ЛЮБІЦЬ БЛІЗКАГА, ЯК САМОГА СЯБЕ.**

***АГУЛЬНАПРЫЗНАНА:** адпушчэнне цэн не паслужыла стымулам для павышэння якасці і колькасці тавараў. Людзі пытаюцца: чаму аграбленне вядзецца з такой першабытнай прымітыўнасцю?*

**БЕЛАРУСКІ ПАРЛАМЕНТ ЗРАБІЎ ГУМАННЫ АКТ— ПРЫНЯЎ ЗАКОН АБ АМНІСТЫІ НЕКАТОРЫХ КАТЭГОРЫЙ АСУДЖАНЫХ.**

***СЁННЯ**, каб купіць просты тавар, трэба прад'явіць чатыры віды «дзяржаўных» папер: грошы, «візіткі», купоны, чакавую кніжку. І кожная з іх набываецца ў чарзе, пасля бегатні і паездак па адпаведных установах. Ці не таму і тавараў няма, што ўсе занятыя папяровымі справамі?*

**«У НАШЫМ НЯЎТУЛЬНЫМ і бяздушным доме, падобна, усё перавернута з ног на галаву». ТАК ПІШУЦЬ У АДКРЫТЫМ ЛІСЦЕ С. С. ШУШКЕВІЧУ І В. Ф. КЕБІЧУ КІРАЎНІКІ ТВОРЧЫХ САЮЗАЎ І ФОНДУ КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ. Яны пагражаюць: падаткі на творчыя саюзы прывядуць да іх самароспуску і да таго, што «культуру захлісне хваля бездухоўнасці, агіднасці і пошласці».**

*Янка КУПАЛА*

* * *

*Не пагаснуць зоркі ў небе, пакуль неба будзе,*
*Не загіне край наш родны, пакуль будуць людзі.*
*Ночка цёмная на свеце вечна не пануе,*
*Зерне, кінутае ў ніву, ўсходзе ды красуе.*

*Беларускаю рукою светлай праўды сіла*
*Славу лепшую напіша Беларусі мілай.*

*Зацвіце наш край, як сонца, пасля непагоды*
*У роўнай сіле, ў роўным стане між усіх народаў.*



СЯРОЖА ПЕТРЫКЕВІЧ — сямікласнік менскай СШ № 188. Мінулы год асабліва знамянальны быў для хлопчыка: ён загаварыў па-беларуску. А пачалося ўсё з ліста балгарскай жанчыны, якая ў адной з газет ушчувала беларусаў за тое, што яны адракліся ад роднай мовы.
Сярожа набраўся смеласці і... загаварыў па-беларуску. Маці абурылася, асабліва не даспадобы ёй прыйшлося слова «гарбата». Ды хлопец аказаўся ўпартым. У школе Сяргея падтрымала класны кіраўнік (яна выкладае родную мову і літаратуру). Аднакласнікі спярша аб'явілі Сярожу байкот, а пасля змірыліся.
На сённяшні дзень Сярожа Петрыкевіч адказвае на роднай мове на ўсіх уроках, акрамя біялогіі і, зразумела, рускай мовы і літаратуры.
Фота М. ХАМЦА.

## ВЫРАШЫЦЬ ВАЙСКОВАЕ ПЫТАННЕ

Расія аб'явіла, што будзе плаціць зарплату былому савецкаму войску, якое знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. А што гэта значыць? Тое, што «напаўняць» таварамі і прадуктамі пустыя рублі будуць беларусы. Такім чынам, рэспубліка, якая не мае свайго войска, будзе карміць чужое.

А чаму ж у нас няма свайго войска? У звароце Сойма БНФ «Адраджэнне» «Аб нацыянальнай гвардыі» даецца канкрэтны адказ на гэта пытанне: беларускі парламент адмовіўся рэальна вырашаць вайсковае пытанне. І хоць суседзі ствараюць свае ўзброеныя сілы, у Беларусі па-ранейшаму застаецца велізарнае войска, не падкантрольнае рэспубліцы, а таксама стратэгічная і тактычная атамная зброя. У такіх абставінах БНФ заяўляе, што «не стане больш стрымліваць натуральную ініцыятыву людзей да самаабароны і самазахавання».

### Зянон Пазьняк: «Народ мае права на жыццё і абарону...»

Стар. 2.

### КАМУ СЛУЖАЦЬ БІБЛІЯТЭКІ?

Стар. 3.

### Уніяцкая царква і жыццё беларусаў.

Стар. 6.

### «ЗАБОЙСТВА ПА ТЭЛЕФОНЕ».

Стар. 7.

*У суполках ТБМ*

### Вось і Брэст парадаваў

Здавалася б, невялікая заслуга — радавацца кожнаму кроку беларусізацыі ў нашым жыцці.

І ўсё ж радасна, калі ствараюцца ў самых кансерватыўных структурах суполкі ТБМ і іншыя «нефармальныя» аб'яднанні. Вось і Брэст парадаваў: на працу ў гарадское аддзяленне міліцыі ў якасці перакладчыкаў запрошаны кваліфікаваныя мовазнаўцы. Спадзяёмся, што ў хуткім часе мясцовая міліцыя загаворыць на беларускай мове.

А. КУТ.

ДАПЫТЛІВАМУ

# ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

У рэдакцыйнай пошце трапляюцца лісты, аўтары якіх пішуць, што ім не зусім зразумела — у чым адрозненне паняццяў «народная мова» і «літаратурная». Апошнім часам гэтае пытанне набыло дадатковую актуальнасць у сувязі з апублікаваннем праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзе ў артыкуле 17 сказана: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова». Але якая,— задаюць пытанне,— народная ці літаратурная? Мяркуем, аднак, што розначытанне тут узнікаць не павінна. Звернемся за адказам да аднаго з самых аўтарытэтных спецыялістаў па беларускай мове, доктара філалогіі, прафесара і пісьменніка, аўтара многіх навуковых прац, у тым ліку «Гістарычнай граматыкі беларускай мовы» Фёдара Янкоўскага. Вучоны адзначае, што літаратурная мова ўзнікае тады, калі народ дасягае пэўных зрухаў у сваім культурным развіцці. «Істотнай адзнакай літаратурнай мовы,— ~~падкрэслівае Ф. Янкоўскі~~,— з'яўляецца наяўнасць у ёй агульнапрынятых норм. Інакш кажучы, літаратурная мова — гэта нармалізаваная агульнанародная мова... Яна багацейшая за любую асобна ўзятую мясцовую гаворку і сваім слоўнікавым складам, і сваёй фразеалогіяй, і сінтаксічнымі канструкцыямі». Літаратурная мова, заўважае таксама вучоны, убірае ў сябе ўсё лепшае, што стварыў народ як нацыянальная супольнасць, апрацаванае ягонымі майстрамі.



«Ефрасіння Полацкая», габелен. Мастак С. Свістуновіч.
Фота У. КРУКА.

## Размоўнік ветлівага госця

для гасцявання ў Англіі

1. Добры дзень (Добрага здароўя!) Вітаю Вас! — How do you do? (Hallo!) — Хау ду ю ду? (хэлоу!)
2. Калі ласка! — Please — пл:з
3. Мая родная мова — беларуская — Byelorussian is my native tongue. — Б'елорашн із май нэйтыв тан.
4. Дзякуй! — Thank you — сэнк'ю
5. Я не размаўляю па-англійску — I don't speak English — Ай доунт сп:к інгліш
6. Гаварыце, калі ласка, павольна — Speak slowly, please — Спі:к слоўлі плі:з
7. Я — мы — I — We — ай — ві
8. Вы — ты — You — you — ю — ю
9. Так — не — Yes — no — йес — ноу
10. Добра — дрэнна — Good — bad — гуд — бэд
11. Можна — нельга — Allowed — not allowed — элауд — нот элауд

*Пішам, вымаўляем*

## «Дзякую» — дзеяслоў

(ЗВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА Ў «НАШЫМ СЛОВЕ», № 45).

Цяпер у нас пачалося, хоць і баязліва, адраджэнне роднай мовы. І вельмі прыкра слухаць, калі па радыё не абы ад каго, а з вуснаў адукаваных журналістаў гучыць недарэчнае слова. Мяркуйце самі. Гаворыць, гаворыць гэты журналіст, а потым у канцы і кажа: «Вялікі вам дзякуй!» Як бы гэта які каравай і слова мужчынскага роду. Але ж давайце разбяромся па граматыцы: «дзякую» — дзеяслоў, а «дзякуй» — загадная форма дзеяслова. Значыць, трэба гаварыць: «Вялікае вам дзякуй!»

Можна яшчэ параўнаць гэтае слова з расійскім «спасибо», якое ўтварылася таксама ад дзеяслова загаднай формы — «спаси вас Бог». І як бы недарэчна прагучала, калі б нехта сказаў: «Большой вам спасибо!»

На жаль, нашыя радыёжурналісты часта ў вымаўленні дазваляюць сабе не толькі гэтую памылку. А з іх жа бяруць прыклад тысячы радыёслухачоў!

І яшчэ хачу прыгадаць, як прыемна было слухаць роднае слова, калі яно прагучала ў прыгарадным поездзе: «Увага! Дзверы зачыняюцца. Наступны прыпынак «Кісялевічы». Але не доўга так было. Відаць, некаму прыйшлося не даспадобы наша слова — і ўсё змоўкла. А шкада! Цяпер ад праваднікоў чуеш толькі трасянку: «Прыабратайце білеты!» Няўжо цяжка сказаць: «Набывайце білеты!»?

Я гэта чаму расказаў? Трэба нам за сваё слова змагацца. І пачынаць гэтую барацьбу, уводзячы яго праз усе дзяржаўныя структуры, а ў народзе гэтаму, я думаю, заўсёды падтрымка будзе.

Іван ПАТАПЕЙКА,
г. Бабруйск.



# АД ПІКТАГРАМЫ ДА ЛІТАРЫ

*(Працяг. Пачатак у № 1).*

У складовым пісьме асобнымі знакамі абазначаюцца склады, што дае яму пэўную перавагу перад астатнімі графічнымі сістэмамі. Напрыклад, у многіх мовах пры чытанні лягчэй вылучаецца склад, чым асобны гук, таму абазначэнне ў іх асобнымі знакамі складоў з'яўляецца вельмі зручным. Аднак некаторыя складовыя сістэмы налічваюць да 200 графічных адзінак, у той час як усе літарна-гукавыя маюць усяго ад 20 да 40 літар. Такі мінімальны набор знакаў і прадвызначыў лёс літарна-гукавога пісьма як найбольш дасканалага тыпу пісьменнасці.

Літарна-гукавым прынята называць пісьмо, кожны графічны знак якога абазначае асобны гук. Самыя старажытныя сістэмы такога пісьма замацаваліся ў тых мовах, галосныя гукі якіх ігралі меншую ролю ў параўнанні з зычнымі: графічныя знакі на пачатку ў літарна-гукавых сістэмах абазначалі толькі зычныя гукі. Упершыню кансанантна-гукавыя (зычныя) графічныя адзінкі з'явіліся ў егіпецкім пісьме, якое, праўда, амаль на працягу ўсяго свайго існавання ўяўляла сабою сістэму, што спалучала іерогліфы, літары і нават малюнкі. Чыста гукавое пісьмо ўпершыню прыдумалі фінікійцы і іншыя заходнесеміцкія народы. Створаная імі сістэма графікі была простай і даступнай і надалей паслужыла зыходнай асновай для ўсіх літарна-гукавых сістэм.

У адрозненне ад папярэдніх тыпаў пісьма, літарна-гукавыя графічныя сістэмы распаўсюджваліся ў свеце амаль выключна шляхам запазычання. Напрыклад, грэкі стварылі сваё пісьмо на аснове фінікійскага і ўпершыню ў гісторыі ўвялі асобныя літары не толькі для зычных, але і галосных гукаў, адкрыўшы такім чынам вакалізавана-гукавую пісьменнасць. Дзякуючы гэтаму адкрыццю, ад грэчаскага алфавіта паходзяць усе еўрапейскія алфавіты, якія абслугоўваюць сёння каля 40 % народаў свету. Сярод гэтых алфавітаў і *кірыліца*, яна легла ў аснову славянскага пісьма.

СТВАРЭННЕ І ЎДАСКАНАЛЕННЕ КІРЫЛІЦЫ звязана з дзейнасцю двух вялікіх славянскіх братоў-асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Жыццё і справа гэтых асоб маюць выключнае значэнне не толькі ў развіцці славянскіх народаў, але і ў гісторыі сусветнай цывілізацыі. Стварыўшы азбуку, яны абгрунтавалі і сцвердзілі гістарычныя правы новай культуры, якая заняла пачэснае месца побач са старажытнымі візантыйскай і лацінскай культурамі.

Беларускі народ — адзін з тых, хто ўзяў за аснову свайго пісьма кірыліцу. Наша пісьменнасць пачала развівацца на аснове старажытнарускай прыкладна з сярэдзіны XIII ст., калі на землях сучаснай Беларусі з'явіліся першыя пісьмовыя помнікі з адзнакамі беларускай мовы. Гэта быў якраз той час, калі пачалі фарміравацца тры ўсходнеславянскія народнасці — рускія, украінцы і беларусы.

На пачатку старабеларуская графіка захоўвала амаль усе тыя знакі, якія былі і ў старажытнарускім пісьме. Аднак з развіццём беларускай мовы літарны склад алфавіта перастаў адпавядаць яе гукавой сістэме, таму ўзнікла неабходнасць у замене і спрашчэнні некаторых графічных сродкаў: адпала, напрыклад, патрэба ў дублетных літарах — для *о*, для *ф*, для *і*; узніклі літары *э* (канец XV ст.), *й* (канец XVI ст.) і інш. Бясспрэчным дасягненнем старабеларускай графікі стаў уведзены Францішкам Скарынам друкарскі варыянт алфавіта, які перайма лі пазней многія ўсходнеславянскія друкары.

У сувязі з заняпадам у канцы XVI і ў XVII ст. беларускай пісьменнасці, выкліканым рэпрэсіўнай палітыкай Рэчы Паспалітай, вялікае пашырэнне на Беларусі ў XVIII — пачатку XX ст. атрымаў лацінскі алфавіт (лацінка). Лацінкай, напрыклад, былі надрукаваны творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, публіцыстыка К. Каліноўскага і інш. Аднак у XIX і на пачатку XX ст. з узнікненнем легальнага беларускага друку для перадачы гукавой сістэмы беларускай мовы быў прыстасаваны рускі грамадзянскі шрыфт, зацверджаны яшчэ Пятром I у 1710 годзе (гражданка). Шэраг беларускіх выданняў, напрыклад, газета «Наша ніва», першыя зборнікі Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа друкаваліся паралельна двума шрыфтамі — лацінкай і гражданкай.

СУЧАСНЫ БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ склаўся на аснове грамадзянскага шрыфту і як адзіны графічны сродак нацыянальнай літаратурнай мовы канчаткова замацаваўся толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сёння, праўда, ён не ўсіх задавальняе.

Уладзімір ЛАМЕКА.

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*

# ЗАБОЙСТВА ПА ТЭЛЕФОНЕ

*Андрыс КОЛБЕРГС*

*(Працяг. Пачатак у № 1).*

Зараз я амаль што ўпэўнены, што здымкаў было больш, але нехта іх забраў. Ва ўсякім выпадку большасць здымкаў. А, можа, сярод гэтых здымкаў ляжала якая каштоўнасць? Гэтую версію адразу адкідваю, бо я пабачыў дзесяткі падобных кватэр. Звычайна самая большая каштоўнасць у іх — пустая бутэлька, а калі злодзеі знойдуць дзве, то абавязкова забяруць: трафеі можна здаць на пункт прыёму шклатары і зарабіць на піва. Мо Эма Кірко каго-небудзь шантажыравала? Але наўрад. Па сутнасці, Эміна жыццё, актыўныя сувязі абарваліся гадоў з дваццаць назад. І якімі б парнаграфічнымі здымкамі яна ні завалодала ў той час, цяпер яны ў вачах тае, якую шантажыравала, не мелі ніякай каштоўнасці. У якасці выкупу за іх Эме цяпер хапіла б пару бутэлек гарэлкі, ну яшчэ якую дваццатку запатрабавала б у дадатак. У гэтай трушчобе лік на тысячы не вядуць, тут усё таннае, чалавечае жыццё, на жаль, таксама. А мо на здымках быў нехта такі, каго шукае крымінальны вышук? Напрыклад, асоба, якая ўчыніла цяжкае злачынства, якое не мае тэрміну даўнасці. Скажам, забойства. Не, у Эмы ўсё-такі хапіла б розуму, каб такога тыпа не цвяліць — сама ж хворая, амаль немагушчая, ды яшчэ дзверы ў кватэры не зачыняюцца. Не магла яна пайсці на такое — разумела, што яе за шантаж проста заб'юць.

Ці не ўзяла канверт са здымкамі дворнічыха, якая раніцаю прынесла талоны на мыла і пральны парашок і ўбачыла Эму мёртваю? Яна ж і паведаміла пра забойства. Калі ўжо яна з такіх, якія здольныя ўзяць, то чаму не забрала кашалёк з грашыма? На жаль, у маёй практыцы сустракаліся такія работнікі домакіраўніцтва і санітарнай службы, якія прыязджаюць у такіх выпадках рабіць дэзінфекцыю. Яны забіраюць лепшыя кнігі, карціны, рэчы, а аднойчы заявілася дворнічыха з ужо нанятымі насільшчыкамі: «Халадзільнік цяпер мой, а гэтую канапу нябожчыца прасіла мяне ўзяць на памяць!»

— Я еду ва ўпраўленне.

— А інспектар?

— Інспектар нікуды не дзенецца.

— Рэчавыя доказы будуць ляжаць у маім сейфе.

— Салют!

Студэнты чацвёртага курса, якія праходзяць у нас практыку, у маім кабінеце звычайна разводзяць дыскусіі на розныя тэмы. Усеагульная палітызацыя навучыла людзей фармуляваць і выказваць свае думкі, але ўсё роўна праўда на баку таго, хто мае добрае горла і часцей можа дабіцца ўзяць слова. Я ім не замінаю і думаю, што практыканты задаволеныя мною як шэфам. На месцы здарэнняў я іх за сабою сілком не цягну, а самі яны туды, на жаль, не вельмі імкнуцца. Здаецца, іх больш за ўсё вабіць тэхнічная работа — падшываюць справы ў папкі, перадрукоўваюць на машынцы розныя дакументы і заключэнні, якія прыносяць следчыя. Калі каму з практыкантаў даручыць разнесці позвы, упэўнены, у той дзень на рабоце больш яго не ўбачыш. Усе яны даволі старанна вывучаюць замежныя мовы і спадзяюцца стаць спецыялістамі грамадзянскага права, каб потым прабіцца ў юрысконсульты на якое-небудзь сумеснае з іншаземнай фірмай прадпрыемства або ў мясцовы кааператыў. Я ўсё ж спадзяюся, што ў цэлым хлопцы хочуць не толькі зарабіць, але і зрабіць што-небудзь карыснае. Шкада толькі, што сярод гэтых хлопцаў няма ніводнага прыроднага паляўнічага: крымінальны вышук — гэта перш за ўсё задавальненне паляўнічага інстынкту і ўжо потым — абавязак.

Адчыняючы дзверы свайго кабінета, чую, як яны чахвосцяць лідэра не вельмі папулярнай партыі:

— Хутчэй паверу, што ў гэтага карантыша з сківаіцаю малпы адрасце на лысіне шавялюра, чым у тое, што да яго вернецца здаровы розум!

— Праўда што, а нам няма чаго скардзіцца на недахоп розуму... — кажу замест прывітання.

— Добры дзень! Добры дзень! — чуецца з усіх бакоў, і размовы адразу сціхаюць.

— Добры, добры... Давядзецца крыху папрацаваць, — кажу я і ўсаджваюся за пісьмовы стол. З запісное кніжкі выпісваю на асобныя лісткі паперы нумары тэлефонаў, якія выявіў я на сцяне ў пакоі Эмы Кірко.

— Мы ўжо амаль што закончылі сёння...— нясмела пачаў адзін.

— Звышурочныя вылічым з таго часу, які вы мне павінны.

— Ды мы нічога... Калі трэба, то трэба...

Раздаю лісткі і цярпліва тлумачу — проста як настаўнік арыфметыкі ў пачатковай школе.

— Кожнаму з вас я даў адзін нумар тэлефона з прозвішчам ці імем. Перш за ўсё ўнізе, на другім паверсе, даведайцеся, хто гэтыя абаненты, іх адрасы. Потым устанавіце, што гэта за людзі, чым займаюцца і ці не знаёмыя з нейкаю Эмаю Кірко. Чакаю вас са звесткамі.

— Да якога часу?

— Да таго часу, пакуль не вернецеся.

— Той, хто справіцца з заданнем, можа быць свабодны? — пытаецца самы вялікі гаварун.

— Так, можа быць.

— У такім разе мне ісці няма чаго. З Сіндзіяй я і так знаёмы.

— Гм... — не знайшоў я што сказаць.

— Яму можна верыць, ён знаёмы з многімі дзяўчатамі,— шматзначна кажа яго таварыш, пакідаючы мой кабінет.

Мы засталіся ўдвух.

— Прысаджвайцеся, будучы калега, і выкладвайце.

— Яе завуць Сіндзія Пакалне. Мы не толькі вучыліся ў адным класе, але і жывём недалёка адно ад аднаго. Яна — лірычнае, маральна ўстойлівае стварэнне. Працуе ў нейкай канторы, нешта там піша...

— Сямейнае становішча?

— На мінулым тыдні сустрэў яе — была яшчэ незамужняя. Сям'я — бацька, маці, брацік, але ён яшчэ зусім малы.

— Якія ў яе ўзаемаадносіны з Эмай Кірко?

— Гэтага я не ведаю.

— Пытанне ўваходзіла ў заданне...

— Калі не сакрэт, хто такая Эма Кірко?

— Толькі да вашага ведама і для службовага карыстання... Эмы Кірко больш няма. Учора яна была забіта ва ўласнай пасцелі. Алкагалічка, брудная старая. Што ў Сіндзіі агульнага з ёю?

— Думаю, нічога.

— І ўсё ж?

— Зусім нічога. Я сапраўды добра ведаю дзяўчыну. Па-жаночы летуценная, па-жаночы абмежаваная, асабліва ў галіне фізікі і матэматыкі. Празмерна правільная, пагэтаму ў школе ў яе не было ніводнага кавалера. Можа, і сёння яшчэ няма. Але прыгожая, на конкурсе прыгажунь дабралася да паўфіналу, аднак бацькі ў яе закаранелыя пурытане, прымусілі адмовіцца ад далейшага ўдзелу ў конкурсе. Мы яшчэ казалі, што Міс яна не стане, але які-небудзь прыз атрымае.

— Што ты ёй скажаш?

— Не ведаю.

— Я таксама.

— Можа, па дарозе прыдумаю.

— На тваім месцы я сказаў бы, што Эма Кірко памерла. Забойца часта бывае не ўпэўнены ў смерці сваёй ахвяры, і жывая яна для яго ўяўляе большую небяспеку, чым мёртвая.

— Сіндзія не можа быць забойцам. Якія матывы вы ні называлі б, гэта немагчыма.

— Кепскі той следчы, які пачынае допыт з думкаю «вінаваты», але не лепшы і той, хто адразу лічыць — «невінаваты».

— Я вас зразумеў.

— Едзь і хутчэй вяртайся.

— Зараз яе дома не будзе, але я ведаю, дзе яна працуе...

Я кансерватыўны і не веру нават у відавочнае. Ведаю, што бываюць нематываваныя злачынствы. Ведаю, судакранаўся, але тым не менш заўсёды шукаю матыў нават у тым выпадку, калі даказана — матыву забойства не было. Не магу пазбавіцца ад гэтай звычкі, прычым мне самому здаецца, што матыў я знаходжу заўсёды. Калі не ў цэнтры падзей, то ў больш аддаленым ад іх месцы. Можа, і не мая праўда, але мне заўсёды здавалася, што паміж спадчыннасцю і злачынствам існуе сувязь, якую ўмоўна і можна лічыць матывам злачынства. Гэта як бервяно, што напалову схаванае пад вадою, і таму асабліва небяспечнае для плыўцоў.

Першая інфармацыя паступае праз гадзіну. Практыкант звоніць з пансіяната для асабліва выбраных. Хлопец расшукаў Аляксандру Янаўну, але яна сцвярджае, што ні з якою Эмаю Кірко незнаёмая, ніколі з ёю не бачылася і ніколі не размаўляла. Пансіянат знаходзіцца дзесьці за межамі горада, і хлопец пытаецца, ці буду я яшчэ ў сябе, калі ён вернецца. Здаецца, хоча сказаць нешта яшчэ.

Затым я даведваюся, што доктар Калыньсоне — урач раённай паліклінікі і пару разоў наведваўся з дамашнім візітам да Эмы Кірко.

З'явіўся і хлопец, якому было даручана расшукаць Мілію Дзегузе. Яна з таварыства міласэрных хрысціян. Прыходзіла да Эмы на Каляды і на Вялікдзень. Прыносіла падарункі. Хлопцу яна доўга расказвала, як многа ў горадзе няшчасных адзінокіх людзей, як не хапае сродкаў, каб памагчы ім усім. Таварыства трымаецца дзякуючы невынішчальным спадзяванням хрысціян на божую міласэрнасць. Так, свой нумар тэлефона Эме Кірко яна пакінула, і тая запісала яго проста на сцяне, але ні разочку не званіла.

— Дзегузе сказала, што гэта быў адзін з самых змрочных выпадкаў. Кірко прасіла толькі аднаго — памагчы ёй памерці. Самая вялікая міласэрнасць, якое яна прагне,— хай прыйдзе урач і зробіць ёй такі ўкол, каб яна заснула навек. Як жывёлінам у ветэрынарнай лячэбніцы. З Дзегузе яна пашчыравала: сказала, што двойчы спрабавала пакончыць з сабою, але абодва разы няўдала, потым доўга пакутавала. Трэці раз у яе на такое не хапае сілы...

— Мо паспрабаваць уладкаваць яе ў які-небудзь прытулак для непрацаздольных? — наіўна пацікавіўся хлопец, не падазраваючы нават, што месцаў у іх не хапае, што старыя ў падобных установах проста безнадзейныя.

А мне здаецца, што пасля ўсяго таго, што ён даведаўся, забойства Эмы Кірко ён палічыў бы адносна ўдалым вырашэннем многіх праблем.

Мне здаецца, што гадзіны праз дзве я падвяду вынікі пошукаў і змагу накіравацца да раённага інспектара, каб разам з ім абысці кватэры, у якіх і ўдзень, і ўначы спекулююць спіртным.

Хлопец, які ездзіў у пансіянат для выбраных, каштоўнай інфармацыі не прывёз, але папрацаваў добрасумленна. Толькі каб мне не давялося расплачвацца за яго добрасумленнасць. Ён дапусціў дзве памылкі. Папершае, выпытваў у Аляксандры Янаўны, каму яна так часта звоніць. Мабыць, ад кагосьці даведаўся. Падругое, ужо адыходзячы, у парку распытваў розных людзей, якое яны думкі пра Аляксандру Янаўну. Пасля гэткіх роспытаў можа з'явіцца скарга, а то і цэлая лавіна скаргаў. Усё гэта ўпадзе на маю галаву, а не на практыкантаву.

— Што яна табе адказвала?

— Што званіла былым калегам, сябрам у Маскву...

— І?

Тут ён выкладвае свой галоўны козыр. Па дарозе назад зайшоў у мясцовае паштовае аддзяленне і даведаўся, што Аляксандра Янаўна за апошнія паўгода ўвогуле не заказвала міжгароднія размовы.

Гэта рассмяшыла мяне. А хлопец глядзіць мне ў вочы ў непаразуменні.

— Ты проста кепска ведаеш гэтую публіку,— вымушаны быў патлумачыць я.— Ва ўсім свеце няма больш раз'яднанага грамадства, чым наша. І самае большае раз'яднанне ў вярхах бюракратыі. У адным толькі аўтапарку Саўміна мелася восем серый аўтамабільных нумарных знакаў, якія кожны рэгуліроўшчык руху ведаў: гэта паехаў міністр, гэта — намміністра, а гэта — загадчык гаража. Убачыўшы аднаго, рэгуліроўшчык павінен быў стаць па стойцы «смірна» і прыставіць далонь да казырка фуражкі, убачыўшы другога — проста кіўнуць, убачыўшы трэцяга — даць зялёнае святло. Былі аднак і такія, на якіх можна было і не звяртаць увагі. Нідзе і ніколі ў свеце не было столькі важных асоб, колькі ў грамадстве пабудаванага сацыялізму, і нідзе і ніколі так пільна не сачылі, каб кавалкі пірага, у залежнасці ад велічыні і тлустасці, былі размеркаваны ў адпаведнасці з кастамі. А паколькі вярхі заўсёды вылучаліся апетытам, а пірага было малавата, то самым нізкім даводзілася толькі каўтаць слінку. Прыналежнасць да вышэйшай касты гарантавала не толькі ўладу і дабрабыт, але і пашану. Гэта значыць, што твая жонка можа не адказваць на «добры дзень», калі яна не ў гуморы, а тваім дзеткам іншыя павінны пажадаць здароўя перш чым шафёр адкіне перад імі дзверцы чорнага лімузіна. Дзетак у школу возяць на машыне. Усё гэта не ўзнікла само па сабе, усё гэта давала ім Масква. Таму яны ў сваіх размовах абавязкова ўспаміналі Маскву — сваю маці-карміцельку. Гэта быў цэлы рытуал, як «Ойча наш, іжэ ясі на небясі» для веруючых хрысціян. І чым ніжэй прыступка ў кар'еры, на якой стаяў чалавек, тым часцей у яго размовах успаміналася Масква.

— Ды не была Аляксандра Янаўна ніякай вялікай начальніцай... — пярэчыць практыкант і перадае змест размовы ў парку: «Яна? Нікім яна не была! Канторскі работнік! Сорам, што такой ды далі яшчэ персанальную пенсію! Не падыходзіла яна для такой пенсіі! Але ў нас шмат добрых самарыцян: маральна ўстойлівая, працавала добрасумленна, дык няўжо ў каго падымецца рука, каб адкінуць яе ўбок, не пашкадаваць на старасці гадоў? І шкадуюць — даюць. Хоць і самую мінімальную, але калі ўлічыць усе перавагі, атрымліваецца ў два разы больш, чым у простага рабочага. Хоць заслуг і няма ніякіх!»

«Аляксандра Янаўна? Ціхі, мілы чалавек. Прыйшла да нас у райком з прафсаюзаў... Была тады сціплаю дзяўчынаю. Сімпатычная, а вось жаніхоў усё-такі нечым адпужвала. Сама з боку, відаць, знаёмстваў не заводзіла, а ў нашай установе ўжо ўсіх мужчын прыбралі да рук. Ахоўвала сваю рэпутацыю да таго часу, пакуль ужо нікому не стала патрэбнаю, а хутка і пенсія падаспела».

Асобу Аляксандры Янаўны я ніяк не магу прывязаць да Эмы Кірко. Як і з Сіндзіяй Пакалне. Можа, з дапамогаю персанальнага пенсіянера Аляксандры Янаўны Эма спадзявалася выбрацца са свайго заканурка? Але Аляксандра Янаўна сцвярджае, што Эміна прозвішча не ведае. І мала значыць, ці даўно Эма запісала нумар тэлефона Аляксандры Янаўны на сцяне, мо не званіла таму, што не адважвалася ці не верыла, што тая ёй дапаможа. Алкаголікам уласціва нерашучасць ва ўсіх жыццёвых пытаннях, акрамя здабывання спіртнога.

Я ўжо амаль скончыў са справамі, што накапіліся, як заявіўся практыкант, які хадзіў на размову з Сіндзіяй Пакалне.

— Прызнайцеся, што вы пажартавалі...

— З якой нагоды?

— А з той, што Эма Кірко — вопусцень і алкагалічка.

— І не думаў.

— Сіндзія ад яе ў захапленні!

Брыду адзін па Бастыённай горцы, і мне хочацца крычаць: »Ты сам жартуеш, хлопча!» І Сіндзія таксама: «І вы жартуеце!»

Маю правую кішэню адтапырвае невялікі магнітафончык «Соні», які звычайна служыць мне за дыктафон, а левы — касеты з запісамі тэлефонных размоў, якія належаць Сіндзіі. Як сказаў практыкант, у іх не ўсё: Сіндзія пачала запісваць размовы пазней, пасля таго, як яе зацікавіў пачатак.

«У вас будзе колькі хвілінак? Я хацела вам расказаць пра Росланда... Гэта быў незвычайны чалавек і незвычайнае было наша каханне. Калі не хочаце слухаць, палажыце трубку на стол, толькі не перапыняйце сувязі, мне вельмі трэба каму-небудзь расказаць пра гэта!» Голас у Эмы прыгожы, меладычны, малады не па ўзросце.

*(Працяг будзе).*

